# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

6 КАСТРЫЧНІКА 1992 г.
аўторак, № 199 (21977)


**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.19, 17.36, 11.17;
Віцебск — 6.12, 17.22, 11.10;
Магілёў — 6.09, 17.25, 11.16;
Гомель — 6.06, 17.21, 11.15;
Гродна — 6.36, 17.49, 11.13;
Брэст — 6.34, 17.53, 11.19.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 3 кастрычніка

**ІМЯНІНЫ:**
Івана, Інакенція, Паліксены, Іраіды, Андрэя, Пятра

# Вячаслаў Кебіч і канцлер Аўстрыі Франц Враніцкі адкрываюць крэдытную лінію для Беларусі

## ЗАВЯРШЫЎСЯ ВІЗІТ УРАДАВАЙ ДЭЛЕГАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НА ЧАЛЕ З ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРАМ ВЯЧАСЛАВАМ КЕБІЧАМ У АЎСТРЫЮ

*(Публікуем матэрыялы агенцтва ІТАР—ТАСС аб гэтым візіце).*

**◆ ПАДПІСАНЫ МЕМАРАНДУМ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ ПАМІЖ РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ І АЎСТРЫЯЙ.**
**◆ АЎСТРЫЯ ВЫДЗЯЛЯЕ БЕЛАРУСІ ПЯЦЬ МІЛЬЯРДАЎ ШЫЛІНГАЎ (КАЛЯ 500 МІЛЬЁНАЎ АМЕРЫКАНСКІХ ДОЛАРАЎ) ДЛЯ МАДЭРНІЗАЦЫІ ЭКАНОМІКІ.**

**У ходзе візіту Вячаслава Кебіча ў Аўстрыю дасягнута дагаворанасць аб выдзяленні Рэспубліцы Беларусь буйнога крэдыту.**

ВЕНА (Кар. ІТАР — ТАСС Аляксандр Кузьмін). У Вене адбыліся перагаворы паміж Старшынёй Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаславам Кебічам і федэральным канцлерам Аўстрыі Францам Враніцкім.

На сустрэчы былі дэталёва абмеркаваны пытанні міждзяржаўнага супрацоўніцтва, умацавання ўзаемных сувязей. У выніку перагавораў быў падпісаны Мемарандум аб супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Аўстрыйскай Рэспублікай. Важнейшым пунктам гэтага дакумента з'явілася дагаворанасць аб прадастаўленні Беларусі безлімітнага крэдыту з мэтай рэфармавання эканомікі рэспублікі. Прадугледжваецца, што ў першыя пяць гадоў размеры гэтага крэдыту складуць 5 млрд. шылінгаў (каля паўмільярда долараў). Выдзяленне крэдыту тут расцэньваюць як беспрэцэдэнтны крок аўстрыйскага кіраўніцтва і звязваюць з імкненнем Аўстрыі да супрацоўніцтва з Рэспублікай Беларусь, а таксама з асабістымі сімпатыямі да кіраўніка ўрада Беларусі і яго пазіцыі, накіраванай на ўмацаванне СНД, дасягненне стабільнасці і згоды паміж рэспублікамі былога СССР.

**Франц Враніцкі выказаў задавальненне ўзважанай палітычнай пазіцыяй Беларусі, яе імкненнем да дасягнення згоды ў межах СНД і ўмацавання сувязей як з Расіяй, так і еўрапейскімі дзяржавамі.**

На прайшоўшай прэс-канферэнцыі кіраўнік урада Рэспублікі Беларусь указаў, што праведзеныя ў Вене перагаворы былі плённымі. Ён адзначыў, што сёння ўжо немэтазгодна дзяліць Еўропу на Захад і Усход. Асноўная мэта Беларусі — інтэграцыя ў рамках агульнаеўрапейскага працэсу.

Характарызуючы адносіны паміж дзяржавамі ў межах СНД, Вячаслаў Кебіч заявіў, што для Беларусі важнейшым з існуючых прыярытэтаў заўсёды было, ёсць і будзе ўмацаванне дружбы і супрацоўніцтва з Расіяй. Нядаўна быў падпісаны пакет дакументаў, які вызначыў аснову адносін з Расіяй на доўгую перспектыву.

Адказваючы на пытанні журналістаў аб ролі апазіцыі ў палітычным жыцці Беларусі, Вячаслаў Кебіч указаў, што наяўнасць апазіцыі ў дэмакратычнай дзяржаве — зусім нармальная з'ява. Я стаўлюся да Беларускага народнага фронта, больш правільна — да яго разумнай часткі, як да добрых партнёраў. Пытанне стаіць так: чыя прагрaма будзе лепшая, больш эфектыўная і хутчэй прывядзе да паляпшэння жыцця народа, сказаў ён.

Кіраўнік урада Беларусі наведаў аўстрыйскі парламент, сустрэўся з дэпутатамі. У ходзе гутаркі былі закрануты пытанні ўмацавання парламенцкай дэмакратыі, развіцця кантактаў паміж дзвюма краінамі.

***

Завяршыўся візіт у Аўстрыю Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча. Ён быў прыняты федэральным прэзідэнтам Аўстрыйскай Рэспублікі Томасам Клестылем. У ходзе гутаркі адбыўся абмен думкамі аб становішчы ў абедзвюх краінах, аб шляхах пашырэння супрацоўніцтва ў розных сферах жыцця.

Кіраўнік урада Беларусі сустрэўся з прадстаўнікамі аўстрыйскіх дзелавых колаў. Абмеркаваны пытанні расшырэння кантактаў у гаспадарчай сферы, магчымасці стварэння сумесных прадпрыемстваў, выкарыстання сучасных тэхналогій.

У будынку міністэрства эканомікі Аўстрыйскай Рэспублікі быў падпісаны шэраг двухбаковых эканамічных пагадненняў, накіраваных на расшырэнне кааператыўных сувязей, развіццё супрацоўніцтва ў галіне вытворчасці прадуктаў харчавання, металургіі, энергетыкі, турызму. Выступаючы на цырымоніі падпісання дакументаў, міністр эканомікі Аўстрыі Вольфганг Шусель указаў, што аўстрыйскія фірмы праяўляюць вялікую цікавасць да Беларусі, што падпісаныя пагадненні нададуць новы імпульс гандлёвым і эканамічным сувязям паміж дзвюма дзяржавамі, адкрыюць новыя магчымасці для пошуку шляхоў павышэння іх эфектыўнасці.

Вячаслаў Кебіч наведаў адно з прадпрыемстваў аўстрыйскай фірмы «Ласка», якая спецыялізуецца на выпуску абсталявання для харчовай прамысловасці. Вырабы гэтага прадпрыемства сёння можна ўбачыць у 85 краінах свету. Цяпер спецыялісты фірмы працуюць над трыма праектамі ў Беларусі. Кіраўнікі фірмы выказалі гатоўнасць прыняць больш актыўны ўдзел у мадэрнізацыі прадпрыемстваў харчовай прамысловасці рэспублікі, у прыватнасці, у будаўніцтве вытворчых ліній па перапрацоўцы малака, выпуску дзіцячага харчавання.

У інтэрв'ю, дадзеным перад адлётам карэспандэнту ІТАР—ТАСС, Вячаслаў Кебіч указаў, што яго перагаворы ў Аўстрыі былі плённымі. Яны праходзілі ў атмасферы ўзаемаразумення і сведчылі аб імкненні абодвух бакоў да паглыблення ўзаемадзеяння.

Беларусь імкнецца да развіцця ўзаемавыгадных сувязей з еўрапейскімі краінамі, паспяхова выкарыстоўваючы пры гэтым сваё геапалітычнае становішча. Мы маем добра развітую інфраструктуру. Да рэалізуемых намі праектаў могуць падключыцца і іншыя дзяржавы рэгіёна, таму шырокае развіццё такіх кантактаў добра адаб'ецца на эканамічным жыцці не толькі Беларусі, але і іншых краін СНД, падкрэсліў кіраўнік урада Рэспублікі Беларусь.

**Вячаслаў Кебіч сустрэўся з Міланам Кучанам.**

Пасля завяршэння афіцыяльнага візіту ў Аўстрыю ўрадавая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь зрабіла кароткачасовы прыпынак у сталіцы Славеніі Любляне. Кіраўнік беларускага ўрада Вячаслаў Кебіч сустрэўся са старшынёй Прэзідыума Рэспублікі Славеніі панам Міланам Кучанам.

Адбылося зацікаўленае абмеркаванне праблем узаемнага супрацоўніцтва. Асаблівую ўвагу ўдзяліла Славенія дапамозе, якую аказвае Беларусь у ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі. Дасягнута дамоўленасць аб удзеле буйных славенскіх фірмаў у будаўніцтве рэспубліканскай анкалагічнай бальніцы ў Гомелі.

# РОЗГАЛАС

## ПАДПІСКА Ў ПАДАРУНАК

**Надоўга запомніцца мінулае свята—Дзень пажылых людзей —былым супрацоўнікам Дзяржынскага аддзялення Белаграпрамбанка. Пенсіянеры атрымалі ад роднага банка дапамогу ў дзесяць разоў больш за дзяржаўную—3 тысячы рублёў. А яшчэ за самаварам з пачастункам упраўляючая Галіна Бірулёва ўручыла кожнаму з іх аплачаную падпісную квітанцыю на «Звязду».**

## ІДЗЕ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

МІНСК. У горадзе намечана праграма прыватызацыі муніцыпальнай уласнасці, згодна з якой на 1992—93 гады прызначаны да прыватызацыі 273 аб'екты, з іх 116 — у гандлі. Асноўная форма будучай уласнасці — арэнда з выкупам або стварэнне акцыянерных таварыстваў. Пакуль што прыватызаваны 61 аб'ект, аднак у гарвыканкоме разлічваюць, што ў бліжэйшыя два гады эканоміка Мінска сур'ёзна зменіцца.

## АЛІМПІЙЦЫ ЗБІРАЮЦЬ УЗНАГАРОДЫ

Да бурных авацый і апладысментаў гэтым людзям не прывыкаць. Шмат разоў «зрывалі» яны іх і ў алімпійскай Барселоне. Нагадаем яшчэ раз: там, на чарговых Гульнях XXIV Алімпіяды ў саставе зборнай Садружнасці Незалежных Дзяржаў выступала больш чым 50 прадстаўнікоў суверэннай Рэспублікі Беларусь. Са сталіцы Каталоніі нашы прадстаўнікі прывезлі багаты «ўраджай» узнагарод — 27 залатых, сярэбраных і бронзавых медалёў. А гімнаст Віталь Шчэрба наогул здзейсніў нябачны да гэтага часу спартыўны подзвіг, заваяваўшы на адной Алімпіядзе 6 медалёў вышэйшай пробы.

І на гэты раз авацыі і апладысменты гучалі пад скляпеннямі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы менавіта ў гонар іх—трыумфатараў Алімпійскіх гульняў. Шчыра вітаў спартсменаў і іх трэнераў, усіх тых, хто мае дачыненне да іх бліскучых выступленняў, Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслаў Шушкевіч. Да залатых, сярэбраных і бронзавых медалёў Алімпіяды кіраўнік парламента далучыў нашы, беларускія вышэйшыя ўзнагароды: Ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета Рэспублікі атрымалі Віталь Шчэрба і Святлана Багінская, Наталля Зверава і Андрэй Барбашынскі, Канстанцін Лукашык і Наталля Шыколенка, Леанід Тараненка і Ірына Сумнікава... Пераможца дзвюх апошніх Алімпіяд штангіст Аляксандр Курловіч разам з кіраўнікамі беларускага спорту Уладзімірам Рыжанковым, Іванам Гуцько, Мікалаем Шапялевічам і трэнерам Сяргеем Шынкаром сталі «Заслужанымі работнікамі фізічнай культуры і спорту Беларусі».

...А потым была бессмяротная купалаўская «Паўлінка». І ўжо яны, героі алімпійскіх баталій, апладзіравалі артыстам. Што ж, усё заканамерна: талент ёсць талент, і цаніць яго трэба аднолькава — па заслугах.

Аднак і на гэтым ушанаванне герояў спорту ў рэспубліцы не заканчваецца. 11 снежня ў Палацы спорту адбудзецца алімпійскі баль, прысвечаны 40-годдзю ўдзелу спартсменаў Беларусі ў Алімпійскіх гульнях. Будуць і там авацыі і апладысменты, узнагароды і падарункі.

**Анатоль ФЕДАРАЎ.**

## У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Напярэдадні адкрыцця савецка - амерыканскай навуковай канферэнцыі «Новыя матэрыялы і тэхналогіі ў трыбалогіі» Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч сустрэўся з групай вядучых спецыялістаў ЗША ў галіне рэсурсазберажэння.

Кіраўнік парламента расказаў зарубежным гасцям аб палітычным і эканамічным становішчы ў рэспубліцы, праблемах беларускай навукі, высока ацаніў прамыя навукова - вытворчыя сувязі паміж Злучанымі Штатамі Амерыкі і краінамі СНД.

***

5 кастрычніка Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч прыняў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Дэвіда Суорца і меў з ім працяглую гутарку аб развіцці беларуска - амерыканскіх сувязей.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь— БЕЛІНФАРМ.**

## АБМЕЖАВАЛІ?

НАВАГРУДАК. (А. Дук). Заклапочанасць жыхароў горада ростам злачыннасці з боку заезджых камерсантаў прымусіла гарвыканком прыняць рашэнне аб забароне пасялення ў гарадской гасцініцы асоб, якія прыбываюць з іншых краін СНД, без камандзіровачных пасведчанняў на тэрмін больш двух сутак. Выключэнне прадугледжана для арганізаваных груп турыстаў. Акрамя таго, рэкамендавана прадпрыемствам і арганізацыям, якія маюць ведамасныя гасцініцы, умацаваць кантроль за парадкам пражывання ў іх іншагародніх.

## БУДЗЕМ ЧАКАЦЬ ГАДЗІНЫ «ІКС»

**Калі ў сродках масавай інфармацыі прагучала паведамленне аб тым, што з 1 кастрычніка распараджэннем Міністэрства фінансаў і Нацыянальнага банка Беларусі спынена хаджэнне савецкіх рублёў у прыгранічных з Літвой і Украінай раёнах рэспублікі, гэта выклікала ў нас неадназначную рэакцыю. Аптымісты сцвярджалі, што гэта часовая мера, выкліканая ўвядзеннем суседнімі краінамі сваіх нацыянальных валют. Песімісты ж прадракалі: «Паглядзіце, хутка дзейнасць савецкага рубля закончыцца на ўсёй тэрыторыі Беларусі, што фактычна будзе азначаць выхад з так званай рублёвай зоны».**

Мінула некалькі дзён, і з вялікай доляй упэўненасці можна сцвярджаць, што песімісты ўзялі верх. І хоць старшыня праўлення Нацыянальнага банка РБ Станіслаў Багданкевіч заявіў, што пытанне аб выхадзе (або нявыхадзе) Беларусі з рублёвай зоны вырашыцца толькі 22 кастрычніка, у кулуарах гэтага банка ўсё больш настойліва цыркулюе думка аб пачатку, скажам так, гадзіны «ікс» 10-га або ў крайнім выпадку 15 кастрычніка.

Ускосным сведкам канца рублёвай эпохі ў нашай рэспубліцы можа служыць і той факт, што ўжо некалькі дзён мы наўмысна не возім са сталіцы Расіі ніякіх грошай, акрамя «зайчыкаў», якія там друкуюцца.

Многія, навучаныя паўлаўскімі «абменамі», гатовы любыя перамены ў сферы фінансаў лічыць грашовай рэформай з усімі яе непрадказальнымі вынікамі. Таму перад кожным з нас узнікае пытанне — што рабіць са сваімі савецкімі грашыма ў дні, якія засталіся? Сярод беларускіх банкаўскіх работнікаў не існуе адзінай думкі наконт гэтага, аднак спецыяльна для нашых чытачоў яны спрагназавалі некалькі магчымых сітуацый.

**Сітуацыя першая.** Хутка траціць усе савецкія рублі, якія ёсць на руках, пакідаючы толькі «зайчыкі». Гэта з-за апасення падзення курса рубля. Хоць патраціць савецкія грошы можна пазней, паехаўшы ў любое месца на тэрыторыі Расіі. Аднак такое выйсце падыходзіць толькі пры поўнай упэўненасці выхаду рэспублікі з рублёвай зоны.

**Сітуацыя другая.** Перавесці рублі ў безнаяўны разлік (чэкавую ці ашчадную кніжку, рахункі ў банках і г. д.) Такім чынам вы застрахуеце сябе ад магчымага абмену расійскіх «драўляных» на «зайчыкі» і зможаце ў любым выпадку атрымаць свае грошы назад разліковымі білетамі.

**Сітуацыя трэцяя.** Не панікаваць і пакінуць усё як ёсць. Гэта, бадай, будзе самае разумнае. Пры цывілізаваным абмене рублёў на «зайчыкі» вы захаваеце свае грошы, а пастаянная прысутнасць у кішэні часткі савецкіх рублёў створыць гарантыю таго, што не паўторыцца ўкраінскі сіндром, калі мясцовым купонам вырашылі выцесніць рубель, а апошні ўзяў ды і падняўся.

Калі Беларусь усё ж выйдзе з рублёвай зоны, то, на думку кіраўніцтва Нацыянальнага банка, у выпадку пераходу на сваю валюту яе ролю пакуль што выканаюць разліковыя білеты, якіх надрукавана больш чым дастаткова. Аднак з канфідэнцыяльных крыніц рэдакцыі стала вядома, што ў Мінску ўжо ёсць узоры новых беларускіх грошай. Удалося высветліць, што замест правадыроў пралетарыяту і прадстаўнікоў фаўны Беларусі на іх намаляваны помнікі архітэктуры. А паколькі ў нас тэарэтычна ёсць нацыянальная валюта, то засталося чакаць гадзіны «ікс», калі канчаткова высветляцца адносіны паміж нашай незалежнай рэспублікай і рублёвай зонай.

**Кар. «Звязды».**

## НЕЗАЛЕЖНЫ ПРАФСАЮЗ ГАРНЯКОЎ— СУПРАЦЬ ПРЭМ'ЕРА

**Са скаргай на ўрад рэспублікі звярнулася выканаўчае бюро Незалежнага прафсаюза гарнякоў Беларусі да Старшыні ВС С. Шушкевіча ў адкрытым пісьме, якое даслана ў рэдакцыю.**

Справа датычыцца нядаўняй пастановы Саўміна наконт распараджэння сродкамі сацыяльнага страхавання. Яны заўсёды знаходзіліся ў руках прафсаюзаў. Але, згодна з прынятым Законам аб прафсаюзах, ім надаюцца функцыі грамадскага кантролю за ўказанымі сродкамі. І толькі. Як адзначылі ў Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, меркавалася, што гэтыя сродкі «прыбяруць» адпаведныя дзяржаўныя органы; павінна была выйсці і спецыяльная пастанова ВС наконт гэтага, чаго, як зразумела ўжо, не было зроблена. Карацей, прафсаюзы (так званыя афіцыяльныя) па-ранейшаму кіравалі тым фондам, які, між іншым, фарміруецца за кошт адлічэнняў прадпрыемстваў і арганізацый (у працэнтных адносінах да фонду заработнай платы) і складае немалую суму. Але кіравалі ўжо **незаконна.** Вось і з'явілася пастанова Саўміна, якая хоць нейкім чынам, часова, павінна была надаць законнасць гэтаму парадку. Прычым сродкі перададзены Федэрацыі прафсаюзаў, па сутнасці тым, хто імі заўсёды і распараджаўся. Вядома, Незалежны прафсаюз гарнякоў палічыў сябе абыдзеным. І, варта прызнаць, зусім абгрунтавана.

Застаецца дадаць: такім вось чынам, калі не ўзгадняюцца прымаемыя дзяржаўныя акты, пэўныя дзеянні, і ўтвараюцца сацыяльныя канфлікты.

## І ЗНОЎ УПОР НА РЭФЕРЭНДУМ

**ГРОДНА. (А. ДУК). На галоўнай плошчы горада адбыўся мітынг у падтрымку рэферэндуму. Аб сітуацыі ў рэспубліцы, якую не здольныя выправіць цяперашні ўрад і Вярхоўны Савет, гаварылі ў прамовах кіраўнікі і актывісты БНФ, БСДГ, Саюза палякаў Беларусі і іншыя.**

На мітынгу была прынята заява, дзе выказана патрабаванне паставіць першым пунктам на будучай сесіі Вярхоўнага Савета пытанне аб рэферэндуме, тэрмінова прывесці да прысягі на вернасць Беларусі ўсіх афіцэраў. Адзначана неабходнасць вырашэння пытанняў аб абароне статуса беларускай мовы як дзяржаўнай, павелічэнні мінімальнага ўзроўню зарплаты і пенсіі, тэрміновым вывадзе расійскіх войск з тэрыторыі рэспублікі і спыненні прыёму войск, якія вяртаюцца з Германіі.

АКТУАЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Адраджэнне на папялішчах

Другое нараджэнне перажываюць сёння Калюга і Сельцы —сумна вядомыя вёскі-пагарэльцы ў Глускім раёне. Яшчэ пахне гарам, чорнымі свечкамі стаяць дрэвы ў навакольных лясах, напамінаючы аб вогненным смерчы, што пранёсся тут. Але на гэтым змрочным фоне прабіваецца ўжо, бярэ сваё новае жыццё. Вёскі адбудоўваюцца літаральна на вачах, таму што ўзялася за гэта ўся рэспубліка.

Урадам устаноўлены тэрмін—тры месяцы на здачу пад ключ абодвух пасёлкаў. Сёння тут працуюць каля сямісот чалавек. Для будаўнікоў, якія хутчэй і лепш за іншых узвядуць катэджы з надворнымі будынкамі, райвыканком устанавіў грашовыя прэміі сто, пяцьдзесят і трыццаць тысяч рублёў.

Тэмпы будаўніцтва аблягчаюць боль, усяляюць у людзей надзею. Ля свайго будучага дома мы сустрэлі яго гаспадыню Ніну Дзяшчэню. Яна і цяпер не можа гаварыць без слёз.

— З палаючай хаты мы ледзь выбеглі. Сякое-такое адзенне выкінулі на агарод, дык і тое згарэла. Засталіся—у чым стаялі. Каб не дапамога мясцовых улад, урада рэспублікі, то з голаду і без адзення прапалі б.

— Мы задзейнічалі і амаль усе раённыя ПМК, — гаворыць начальнік штаба будоўлі, намеснік старшыні аб'яднання «Магілёўаблсельбуд» Аляксандр Селязнёў.—Кожнай з іх даручылі пабудаваць па адн аму катэджу з усім комплексам надворных будынкаў. Мясцовая, глуская, узялася будаваць тры дамы і лазню. Цэнтралізавана завезлі ўсе матэрыялы. Працуем ад цямна да цямна, без выхадных. Тут жа і жывём: хто ў паходных вагонах, хто ў армейскіх палатках. Усе разумеюць, што людзям, якія засталіся без жылля, трэба хутчэй даць яго.

—Будаўнікоў Светлагорскага трэста, якія таксама заканчваюць асноўныя работы, стрымліваюць сантэхнікі-землякі са Светлагорскага мантажнага ўпраўлення, — скардзіцца намеснік галоўнага інжынера трэста Яўген Барысенка. — Мы іх два тыдні назад запрасілі зрабіць замеры і падрыхтаваць абсталяванне. Але з-за непаваротлівасці гэтых субпадрадчыкаў не можам слаць падлогу, выконваць іншыя работы. Стрымліваюць фронт работ, парушаюць тэхналагічны цыкл і электрыкі з бабруйскага трэста «Белэлектрамантаж». Яны пакуль што прыслалі працаваць усяго адно звяно — чатыры чалавекі. А трэба ў тры разы больш. Нашы тынкоўшчыкі прастойваюць, не могуць з-за іх весці аддзелку. Праекціроўшчыкі з інстытута «Магілёўграмадзянпраект» зацягнулі распрацоўку дакументацыі на дваровую каналізацыю.

У Сельцах марудна вядуць работы будаўнікі Бабруйскага трэста № 13 і Салігорскага — № 3. У апошняга толькі адна брыгада ўзялася за ўзвядзенне кроквай пад дах.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, (БЕЛІНФАРМ).**
Глуск, Магілёўская вобласць.

# ФАДЫЁ ФАКТ

**Драматычныя падзеі 1991 года зрабілі магчымым вылучыць рэкордную колькасць прэтэндэнтаў на атрыманне Нобелеўскай прэміі міру. Агульная колькасць кандыдатур — індывідуальных і арганізацый — складае 115, а сума грашовага ўзнагароджання за прэмію вырасла да 1,23 мільёна долараў ЗША. Кандыдатам з найбольшымі шанцамі лічаць Вацлава Гавела — былога прэзідэнта Чэхаславакіі. Сярод іншых кандыдатаў на прэмію — прэзідэнт ЗША Джордж Буш, прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын, канцлер ФРГ Гельмут Коль, прэзідэнт Егіпта Хосні Мубарак і прэм'ер-міністр Ізраіля Іцхак Рабін.**

**Выбраннік будзе аб'яўлены 16 кастрычніка ў Осла.**

***

**Паводле паведамлення міністэрства ўнутраных спраў ФРГ, колькасць немцаў, што перасяляюцца ў Германію з краін СНД і Усходняй Еўропы, пачала змяншацца. Са студзеня па канец верасня гэтага года зарэгістравана больш як 149 тысяч перасяленцаў, у той час як у 1990 і 1991 гадах аналагічныя лічбы склалі адпаведна 337 і 166 тысяч.**

***

**Услед за імклівым зніжэннем курсу рубля на валютнай біржы курс долара на «чорным» рынку хутка павышаецца.**

**У Мінску 4 кастрычніка на стадыёне «Дынама» долар куплялі па 300 рублёў.**

***

**Усялякія падазрэнні на хітрыкі касмічных прышэльцаў у Пінску адпалі, калі шматлікімі выпадкамі нечаканых пажараў заняліся спецыялісты. Ім няцяжка было даказаць, што буры вугаль, завезены з Краснаярскай вобласці, мае ўласцівасць самазапалення. А ад гэтага і ўсе беды.**

***

**За Палярным кругам, у вусці Калымы, вадой могуць быць знесены старыя могілкі, дзе пахаваны памёршыя ад чорнай воспы. Эпідэмія гэтага страшнага захворвання здарылася ў гэтых краях у пачатку мінулага стагоддзя.**

**Гэта паведамленне ўстрывожыла многіх у Рэспубліцы Саха (Якуція) і прымусіла ўлады прыняць неадкладныя меры.**

**У раёне пахавання пабывалі ўжо тры медыка-біялагічныя экспедыцыі.**

***

**Сто тысяч марак кампенсацыі за ўрон здароўю атрымае 59-гадовая жыхарка баварскага горада Нюрнберга Інге Ян. Яна перанесла дзве аперацыі на страўніку, зробленыя ў розных клініках Нюрнберга 13 і 10 гадоў назад. У час адной з іх хірургі «забылі» ў целе пацыенткі хірургічныя нажніцы. Паколькі ніводзін з двух хірургаў, што рабілі аперацыю, не пажадаў прызнацца ў злачыннай няўважлівасці, вырашана спагнаць на карысць пацярпеўшай па 50 тысяч марак з кожнай з клінік, дзе рабіліся аперацыі.**

# З'ЕЗДЗІЛІ Ў ВАШЫНГТОН БЯСПЛАТНА, А КРЭДЫТАЎ ТРЭБА ПАЧАКАЦЬ

## Фінансавая дапамога Беларусі з боку МВФ абумоўлена шэрагам патрабаванняў

**Мы паведамлялі ўжо пра прэс-канферэнцыю, якую правялі старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі С. Багданкевіч і першы намеснік міністра фінансаў М. Румас (а таксама загадчык сакратарыята экспертнага савета Я. Багамазаў) з нагоды іх удзелу (у першы раз) у рабоце штогадовай сесіі Міжнароднага валютнага фонду і Сусветнага банка. Сёння расказваем больш падрабязна аб тых пытаннях, якія закраналіся на прэс-канферэнцыі.**

Няма шчасця, дык, відаць, на самай справе няшчасце дапаможа. Тое эканамічнае становішча, якое перажывае цяпер наша рэспубліка, дае падставу для ўпэўненасці, што мы ўсё ж прыйдзем да нармальных эканамічных адносін, да сапраўднага рынку. Як бы часам нехта і не супраціўляўся. Нас прымусяць гэта зрабіць заходнія дзелавыя людзі. Вось, можна лічыць, галоўны лейтматыў, які міжволі прагучаў на прэс-канферэнцыі.

Так, адбылася неардынарная падзея для фінансава-банкаўскіх колаў нашай рэспублікі: мы ў першы раз, пасля таго як сталі раўнапраўнымі членамі МВФ, на роўных з іншымі абмяркоўвалі эканамічнае становішча ў свеце, а старшыня праўлення Нацыянальнага бан-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# ЗАГАД

## міністра абароны Рэспублікі Беларусь

**«Аб звальненні ў запас ваеннаслужачых і ваенных будаўнікоў, якія выслужылі ўстаноўленыя тэрміны тэрміновай ваеннай службы, і прызыве грамадзян на тэрміновую ваенную службу ў кастрычніку— снежні 1992 года»**

У мэтах выканання пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 2 кастрычніка 1992 года № 601 «Аб звальненні ў запас ваеннаслужачых, якія выслужылі ўстаноўленыя тэрміны ваеннай службы, і аб чарговым прызыве грамадзян на ваенную службу ў кастрычніку—снежні 1992 года».

ЗАГАДВАЮ:

1. Звольніць у кастрычніку—снежні 1992 года з радоў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь у запас ваеннаслужачых тэрміновай службы і ваенных будаўнікоў, якія выслужылі ўстаноўленыя тэрміны ваеннай службы.

2. Прызваць у кастрычніку—снежні 1992 года на тэрміновую ваенную службу і накіраваць ва Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь, пагранічныя, унутраныя, чыгуначныя войскі і іншыя воінскія фарміраванні рэспублікі грамадзян мужчынскага полу, якім да дня прызыву споўнілася 18 гадоў і якія не маюць права на адтэрміноўку ад прызыву, а таксама грамадзян старэйшых прызыўных узростаў, якія страцілі права на адтэрміноўку ад прызыву.

3. Загад аб'явіць ва ўсіх ротах, батарэях і эскадрыллях.

**Міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнік П. КАЗЛОЎСКІ.**

2 кастрычніка 1992 г.
г. Мінск.



# БУЛЬБА РАМАНА ВАНЬКОВІЧА

Вечарам сіноптыкі абяцалі, што наступны дзень будзе такім жа пахмурным. «Часам дождж...» — каменціраваў дыктар. Раман Ванькові, бульбавод па прызванню, цяжка ўздыхнуў: калі патрэбен быў дождж, тады яго не было. А вось зараз з пяці дзён выдаўся больш-менш, ды і той крыху «падмочаны».

Сіноптыкі не памыліліся. Раніцай сапраўды было воблачна, а неўзабаве пайшоў дробны дождж. Усё ж экіпаж выехаў у поле. Ён, камбайнер-трактарыст, у кабіне. Як кажуць, над ім не капае. Мужчыны на камбайне таксама пад дахам — у свой час змайстравалі лёгкі навес: сонца не смажыць і дождж не залівае.



Як бы ні было, а агрэгат — старэнькі, але жвавы і надзейны камбайн вытворчасці былой ГДР — працаваў спраўна. Хлопцы «на капітанскім мосціку» ўвішна адбіралі каменне, іншае непатрэбства. Пад бункерам заўсёды была скрыня трактарнага прычэпа.

Гэтае поле, як і іншыя, што раскіданы па розных брыгадах калгаса «Чырвоная зорка», дае ўвогуле неблагі ўраджай бульбы — больш за 150 цэнтнераў.

— Я чытаю ў раённай газеце, што многія гаспадаркі накопваюць па 70—80 цэнтнераў і дзіўлюся: як такое можа быць, — у нейкім роздуме гаворыць Раман. — У нас землі нікольki не лепшыя. Той жа пясочак з каменнем (адкуль яно толькі і бярэцца — амаль кожны год збіраем?) ды глінай. Але ж клубні атрымаліся даволі важкія і спелыя.

Далей Раман расказваў, што яны зменшылі дозы мінеральных угнаенняў і прыбавілі арганікі. Сёлета пасевы не апрацоўвалі супраць фітафторы — не было патрэбы. Гарачыня нішчыла гэтага ворага. Вось толькі з каларадскім жуком давялося пазмагацца. Пладзіўся, бы саранча. Двойчы апрацавалі пасадкі. На гэтым заканчваецца «хімія» бульбянога поля.

Раней пасадкі бульбы акучвалі да трох — чатырох разоў. Цяпер толькі двойчы. Баяліся, што перасохлая зямля, калі яе паварушыць, страціць нават астатнія кроплі вільгаці...

Найбольш удаліся такія сарты, як выпрабаваны «тэмп» і асабліва «ласунак». Іх накопваюць да 200 цэнтнераў з гектара. А ёсць адзін участак, дзе і бульбоўнік яшчэ не збіты. Зялёны, тугі, моцны — ён радуе вока. «Не менш 220 цэнтнераў будзе!» — аўтарытэтна зазначае Раман.

— А як праявілі сябе іншыя сарты? — пытаю ў яго.

— Увогуле ніякавата. Галандская «санта», якую вельмі хвалілі, нястручная і хваравітая. А «беларускі-3» не дабраў вагі па прычыне гарачыні.



На бульбяных палетках калгаса не відаць ніякай мітусні, гучных дыялогаў, якія звычайна суправаджаюць уборку. Кожны ведае сваё месца. І імкнецца як найлепш выканаць даручаную справу.

Вось пад'язджае да камбайна трактарыст Іван Аўчук. Разварот — і машына замірае дакладна пад транспарцёрам. Чырвоныя бульбіны сорту «беларуская-3» спорна кладуцца ў кузаў. Не прайшлі і двух загонаў, а прычэп паўнюткі. Аўчук кіруе да месца закладкі бульбы на захоўванне.

Такіх пляцовак у калгасе некалькі. Я наведаў адну з іх — ля вёскі Барок. Франц Калошыц — сюды ён прыйшоў на дапамогу з вёскі Зарэчча — указвае трактарысту, дзе лепш ссыпаць бульбу. Вось ужо адкрываецца левы борт, і бела-жоўты, прасушаны і адсартаваны «ласунак» кладзецца ў бурт. Шафёр Браніслаў Бець падвёз салому. Як толькі вышыня бурта дасягне неабходнай адзнакі, Калошыц разам з таварышамі закрые бульбу. Пасля яе засыплюць зямлёй. І будзе спаць «другі хлеб» да вясны...

— Ці шмат прадалі бульбы дзяржаве? — пытаюся ў старшыні калгаса Івана Загусты.

— Пакуль хваліцца няма чым, — без задавальнення адказвае той. — Павезлі неяк дзве машыны. А нам называюць цану — 8 рублёў буйная і 4 — розная. Гэта не пакрывае затрат. Хто будзе сабе на шкоду працаваць? Закладваем бульбу ў бурты. Тут яна не сапсуецца. Пачакаем, мо нешта зменіцца ў лепшы бок. Тэхніку ж, угнаенні мы купляем за вялікія грошы...

Учора на полі Рамана Ваньковіча працавалі два камбайны. Меркавалася закончыць уборку «другога хлеба». Ураджайнасць, безумоўна, узрасла. Як і меркавалася, «тэмп» (а да гэтага «ласунак») парадаваў важкімі клубнямі.

**НА ЗДЫМКАХ:** Раман **ВАНЬКОВІЧ** ля свайго камбайна; трактарыст Іван **АЎЧУК**; растуць бурты бульбы.

**Тэкст і фота Мікалая ЧАХОЎСКАГА.**
Стаўбцоўскі раён.

ДУМКА ЧЫТАЧА

# Каму выгадна ператварыць новы Вярхоўны Савет у клуб мінскіх палітыкаў

## ЗАЎВАГІ НА ПАЛЯХ ЗАКОНАПРАЕКТАЎ АБ ВЫБАРАХ, ПРАПАНАВАНЫХ БНФ І ПНЗ

Апошнім часам шмат размоў вядзецца аб неабходнасці роспуску цяперашняга і абранні новага Вярхоўнага Савета. Асабіста мяне не дужа хвалюе, калі пройдуць выбары ў новы ВС: гэтай восенню, увесну ці праз год. Значна больш непакоіць, якім будзе новы парламент. А гэта ў вялікай ступені залежыць ад таго, паводле якога закона ён будзе абраны.

У свой час я пазнаёміўся з праектам закона, прапанаваным БНФ. А не так даўно ў газеце «Згода» — і з асноўнымі прынцыпамі закона, які распрацоўваецца Партыяй народнай згоды. Першы, як вядома, прадугледжвае абранне палавы дэпутатаў па выбарчых акругах і палавы — па партыйных спісах. Другі, згодна з вышэйназванай газетай,— толькі па партыйных спісах.

Звернемся да палітычнай сітуацыі на Беларусі. Большасць партый за некалькі гадоў свайго існавання не здолелі атрымаць падтрымкі колькі-небудзь значнай часткі грамадзян (тысяча членаў для дзесяцімільённай дзяржавы — гэта несур'ёзна). Выключэннем з'яўляюцца дзве палітычныя сілы — БНФ і ПКБ. Аднак яны ўплываюць, на мой погляд, не больш як на 10 працэнтаў выбаршчыкаў кожная. Такім чынам, каля 80 працэнтаў насельніцтва пры галасаванні па партыйных спісах будзе вымушана галасаваць за тых, каго яны ніколі не абралі б пры наяўнасці годнай альтэрнатывы.

Вось такім шляхам будзе сфарміраваны ўвесь ВС (згодна з ПНЗ), ці яго палова (згодна з БНФ). У другім выпадку нейкая частка прадстаўнікоў палітычнай сілы, што атрымала перамогу па партыйных спісах, пройдзе і па акругах. Цяпер зразумела, што пераможца па партыйных спісах хутчэй за ўсё атрымае большасць у ВС. А гэтым пераможцам можа быць толькі БНФ альбо ПКБ. Магчыма, я памыляюся, аднак мне здаецца, што ні адзін, ні другі варыянт не задаволіць сёння большасць насельніцтва рэспублікі. Аднак ёсць і трэці варыянт: абедзве сілы атрымаюць прыкладна аднолькавую колькасць галасоў выбаршчыкаў. І гэты варыянт самы горшы. Таму што кожны з бакоў будзе мець магчымасць блакіраваць прапановы другога, і ВС зробіцца зусім недзеяздольным.

Мала гэтага, пры галасаванні па партыйных спісах дэпутатамі могуць стаць людзі, якія зусім не маюць падтрымкі народа, а проста ўдала выбралі назву сваёй партыі. Прыйдзе нейкі выбаршчык, які не падтрымлівае ні БНФ, ні ПКБ,— і будзе выбіраць якую-небудзь партыю сярод астатніх у спісе. А як ён выбера, калі іх не ведае? Вядома ж, па назве. А той факт, што ў наш час назвы многіх партый не адпавядаюць іх дзеянням, мяркую, ніхто не будзе аспрэчваць.

Мне здаецца, уся справа ў тым, што як БНФ, так і ПНЗ, прапануючы законы, зыходзяць не з інтарэсаў народа, а са сваіх партыйных інтарэсаў.

У БНФ на сённяшні дзень (дакладней, на той час, калі быў напісаны іх праект закона) было больш шанцаў перамагчы па партыйных спісах. Аднак і па акругах яны могуць разлічваць на нейкую колькасць дэпутацкіх месцаў. І таму прапануецца змешаная сістэма, тым больш, што фармальна яна падобна на некаторыя з заходніх сістэм. Заўважу таксама, што на момант напісання БНФ-ам праекта закона ПКБ яшчэ не набрала моцы. І таму былі ўсе падставы лічыць, што тую палову дэпутацкіх месцаў, якая будзе запоўнена па партыйных спісах, падзеляць паміж сабой БНФ і партыі нацыянал-дэмакратычнага напрамку. Для БНФ, вядома ж, лепш мець такую «апазіцыю», чым нейкую іншую.

У ПНЗ шанцы па акругах значна горшыя (таму што геаграфія гэтай партыі абмежавана Маладзечна і часткова Мінскам). Затое прыгожая назва. І таму яны выступаюць за абранне ўсіх дэпутатаў па партыйных спісах.

З вышэйсказанага можна зрабіць вывад, што абранне па партыйных спісах ва ўмовах, калі палітычны спектр не запоўнены на 80 працэнтаў, прывядзе да выбрання ВС, які з цяжкасцю можна будзе назваць народнай (дэмакратычнай) уладай.

На мой погляд, увесь новы ВС павінен абірацца па выбарчых акругах.

Па-першае, па выбарчай акрузе цяжэй прайсці, падхапіўшы які-небудзь папулісцкі лозунг, таму што значна лягчэй і падрабязней можна даведацца аб кандыдатах. Тым больш, што некаторых выбаршчыкі ўжо ведаюць (напрыклад, па ранейшых выбарах).

Па-другое, на мой погляд, абранне па акругах мае больш пераваг таму, што практычна кожны раён (калі пакінуць тую ж колькасць акруг) меў бы свайго прадстаўніка ў ВС. Тады людзі, жывучы на нейкай невялікай тэрыторыі, ведалі б, што яны могуць праз свайго дэпутата выказаць уласныя меркаванні на самым высокім узроўні.

Чым менш людзей будуць адчуваць сябе няздольнымі хоць неяк паўплываць на дзейнасць вышэйшых органаў улады, тым больш стабільнай будзе сітуацыя ў рэспубліцы.

Канешне, бясконца можна гаварыць аб талерантнасці беларускага народа. Але ад гэтых размоў мала карысці. Будуючы новыя інстытуты ўлады, трэба загадзя думаць аб іх устойлівасці.

Толькі наіўныя людзі могуць думаць, што Беларусь гарантавана на 100 працэнтаў ад любых унутраных тэрытарыяльных канфліктаў. Дазвольце напомніць, што тэрыторыя, якую займае сённяшняя Беларусь, шмат разоў дзялілася паміж рознымі краінамі.

Вядома, калі ў бліжэйшы час эканоміка пачне ўздымацца, дык многія страхі зробяцца залішнімі. Аднак хто гэта можа гарантаваць?

А калі сітуацыя яшчэ больш пагоршыцца, то ці не з'явяцца на Беларусі сепаратысцкія рухі, што будуць прапагандаваць далучэнне якой-небудзь часткі Беларусі да больш удалага суседа? Калі ў гэтым выпадку ў нас будзе ВС, у якім прадстаўлены ўсе слаі грамадства і тэрыторыі, дык кантраляваць сітуацыю ён зможа значна лепш, чым у тым выпадку, калі ператворыцца ў клуб мінскіх палітыкаў, якія самі сябе зробяць дэпутатамі.

Нехта скажа, што парламент павінен быць прафесіянальным. Аднак я моцна сумняваюся ў высокім палітычным прафесіяналізме лідэраў, не гаворачы ўжо аб членах нашых новых партый. Ва ўсякім выпадку, на мой погляд, у любым раёне знойдзецца з дзесятак людзей, якія не горш за іх могуць выказваць меркаванні па самых розных палітычных пытаннях.

**С. КІСЯЛЁЎ.**
г. Маладзечна.

# «Шляхетныя дзяўчаты» з Жодзіна

**Зусім нядаўна пачаліся заняткі ў Жодзінскай жаночай гімназіі, дарэчы, першай на Беларусі, а гараджане паспелі ўжо ахрысціць яе «Смольным». Не здагадваючыся, што менавіта са Смольнага інстытута шляхетных дзяўчат усё і пайшло.**

Ідэю стварэння ў Жодзіне жаночай гімназіі прапанавалі, натуральна, жанчыны. Дзесьці з год назад сустрэліся неяк мэр горада Лідзія Мікалаеўна Печань і настаўніца мовы і літаратуры Алена Анатольеўна Несан. Загаварылі, як водзіцца, пра свае жаночыя праблемы — ды і прыйшлі да высновы, што сучасным маладзенькім дзяўчатам вельмі бракуе і густу, і культуры паводзін. А гаспадыні з іх і наогул ніякія. І выходзяць яны са сваіх сярэдніх школ з вельмі «сярэднімі» ведамі, якія не гарантуюць потым ні добрай адукацыі, ні тым больш прафесіі. А сёння менавіта жанчыны становяцца ў першую чаргу ахвярамі беспрацоўя...

Тэрмінова вырашылі ратаваць дзяўчат. Неўзабаве Алена Анатольеўна накіравалася ў тады яшчэ Ленінскую бібліятэку, дзе паспрабавала адшукаць спачатку як мага больш звестак пра знакаміты Смольны інстытут. Пасля — пра іншыя жаночыя навучальныя ўстановы, якія існавалі ў дарэвалюцыйнай Расіі. І ўжо ў студзені ідэя найлепшага выхавання дзяўчынак увасобілася ў нядзельную вячэрнюю гімназію. Праз нейкі час высветлілася, што выхаванкі гімназіі і школьныя веды дэманструюць выдатныя, і шмат чаго іншага ўмеюць.

Перад залічэннем у штодзённую гімназію праводзіліся ўступныя экзамены. Конкурс быў нежартоўным — пяць прэтэндэнтак на месца. Для іх распрацавалі спецыяльныя тэсты, якія, акрамя праверкі ведання школьных дысцыплін, павінны былі вызначыць здольнасці дзяўчынак да музыкі, танцаў і нават рукадзелля.

Калі ўсё будзе атрымлівацца так, як плануе настаўніцкі калектыў, то разам з пасведчаннем аб сярэдняй адукацыі дзяўчынкі атрымаюць дыплом сакратара-рэферэнта з веданнем замежнай мовы, асноў камп'ютэрнага праграміравання, справаводства і машынапісу. А яшчэ — дыплом малодшай медыцынскай сястры. Да таго ж навучацца выдатна танцаваць, гаспадарыць, авалодаюць тонкасцямі этыкету і цырульнай справай. Між іншым, каштуе такое «шляхетнае выхаванне» ўсяго нічога — 100 рублёў за месяц. Грошы па сённяшніх мерках — чыста сімвалічныя. Напэўна, таму, што з самага пачатку ў першай беларускай гімназіі з'явілася мноства спонсараў — кавальскі і хлебны заводы, гарадскі гандаль, многія іншыя арганізацыі і ўстановы, якія «на ўра» прынялі ідэю асобага выхавання таленавітых дзяўчат, падтрымаўшы спрадвечную традыцыю багатых мецэнатаў.

Гімназія, можна сказаць, толькі-толькі нарадзілася, а планы ў яе не проста вялікія —вялізныя. Праз год для адзінаццацікласніц мяркуецца ўвесці курс маркецінгу, каб пры жаданні і магчымасці выпускніцы маглі распачаць уласную справу. Будуць вучыць іх і ваджэнню аўтамабіля..

**Ірына ЗАВАДСКАЯ.**

# Мой маленькі гандлёвы вопыт

## ДУМАЮ, ЁН МНЕ НЕ ПЕРАШКОДЗІЦЬ. ЯК І ІНШЫМ.

**Неяк надакучыла стаяць ля прылаўка з аднаго боку. Захацелася паставіць сябе на другі. Ну, на якім прадаюць, а не купляюць. Што такое, думаю, — купляй ды купляй... Не, каб прадаць. Тут, канешне, свой вялікі інтарэс і задавальненне: вываліць на прылавак кілаграм грошай і сказаць — а вось загарніце... Прэстыжна. Але ў гэтым выпадку прыходзіцца сутыкацца з такой праблемай, як уцечка грошай. Кожны дзень, інакай, вывальваць па кілаграму не атрымаецца.**

А тут прывезлі з Поўначы пімы: дзве пары. Гэта такія футравыя боты (з аленевай шкуры), нічога сабе, прыгожыя, а галоўнае — цёплыя. І сам бы насіў, ды неяк не прывык. Адным словам, прыйшлося задумацца, што з гэткім цудам рабіць ва ўмовах вялікага індустрыяльнага горада. Падарыць? Але хто ў наш час робіць такія падарункі? Вунь знаёмаму навукоўцу на трыццаціюддзе падарылі аўтаручку за 50 рублёў—гэта я разумею. А тут жа тысячамі запахла. Добра, рабіць няма чаго, трэба прадаваць. Зноў пытанне: каму, як і за колькі?

Суседзям не прадасі — тры скуры з іх драць неяк няёмка. Усе знаёмыя — людзі маладыя, квітнеючага выгляду, носяць толькі «фірму». Так што застаецца адзінае выйсце, адзіны правераны шлях: кіравацца на рынак.

Я не спекулянт і не дзялок, кажуць, іх цяпер наогул няма, таму рашыцца на такі кардынальны, можна нават сказаць, рэвалюцыйны крок мне было цяжкавата. Не тое што фізічна — хлопец я не слабы — а проста псіхалагічна. Ну, вы разумееце. Там знаёмыя, суседзі сустрэнуцца, крывыя ўсмешкі, пытанні накшталт, «а што ты тут робіш» і г. д. З другога боку — прадаваць усё ж трэба. Паразважаўшы такім чынам гадзіны дзве, ваш карэспандэнт «даспеў». Да рэвалюцыйнага кроку.

А, было не было, не я першы і не я апошні. Усё. Іду. Гары яно гарам. Вось зараз. Толькі перакуру. Ну, усё-ё-о. Пайшоў.

На вуліцы ўнутраная барацьба ўсё ж пакінула маю змучаную душу, і я задумаўся над практычнымі пытаннямі гандлёвай акцыі. Дзе, скажам, прадаваць? На Камароўку ехаць— далёка і небяспечна. Тое ж самае — на «Дынама». Застаюся на «Паўднёвым Захадзе», выберу рыначак ля ўніверсама. Так я прыехаў да ўніверсама «Валгаград». Тут, значыць, будзе мая «галгофа».

А вы ведаеце, нічога такога страшнага! Суседзі па гандлёвых радах нікольki не здзівіліся: ну, прадаеш—прадавай, самі, як гаворыцца, такія ж. Уступілі месца, растлумачылі, што магазіну я не канкурэнт і тры рублі абавязковага падатку з мяне не возьмуць. Тут я канчаткова супакоіўся. І пачаў, значыць, гандляваць.

Адбывалася гэта так. Падыходзіла жанчына, звычайна пажылога, далёка не «бальзакаўскага» ўзросту. Доўга глядзела. Потым нарэшце рашалася, брала ў рукі, мацала, зноў глядзела, нюхала, даследавала падэшву. Пытала: колькі? Я адказваў. Жанчына стаяла, стаяла, стаяла. І адыходзіла.

Дзядзька з вёскі Сухарава, што побач прадаваў яблыкі, да маіх экзерсісаў ставіўся спачувальна.

— Сам шыў?

— Ды што вы! Так вось здарылася, што трэба прадаць...

— Ну, зразумела. Ты вось што, ты сёння наўрад ці прадасі.

— Чаму?

— А бачыш, што тут прадаюць? Яблыкі, ігрушы, капусту, кавуны, вунь гарэлкай гандлююць, цыгарэтамі. Людзі ідуць ва ўніверсам, так? Купяць не купяць што, а ў магазіне садавіны-гародніны няма. Значыць, да нас. Яны прыйшлі за прадуктамі, вось. А на прадукты грошай шмат не трэба. Скажам, вунь той бабе твае пімы прыйшліся даспадобы, але яна іх не купіць. Чаму? Адказваю: трэба ісці за грашыма. А яна хацела б і ў гаспадарчы забегчы, і марожанага дзіця прасіла... Карацей кажучы, не купіць.

— Ну, і што рабіць? Дадому збірацца?

— Ну ты даеш! Сядзі, спрабуй прадаць! Можа, дурань які з шалёнымі грашыма знойдзецца. У мяне вось за гадзіну адзін толькі чалавек і купіў, бачыш? А я сяджу. Чаму? Бо ведаю: зранку жанчына займаецца гаспадаркай, ёй трэба дзяцей у школу выправіць, зварыць абед, бялізну памыць. Ну, значыць, дзесьці к вечару вызваліцца. І паляціць да мяне. А як жа, кампоты-варэнні на зіму трэба рыхтаваць. Вось і сяджу цэлы дзень.

— А да мяне ж не паляціць?

— Ты ехаў бы лепш на Камароўку. Народ туды прэцца з грашыма. Ён едзе нешта купіць, можа, якраз і твае пімы. Не, ты ўсё роўна пасядзі, трэба ж вопыту набірацца. Прадаць, браце, таксама трэба ўмець...

Эмпірычна я, канешне, гэту ісціну ведаў. Але, бачыш ты, на практыцы ўсё неяк не так. Эх, Ільіч, Ільіч, як ты меў рацыю, калі дзёўб нам, дурням: вучыцеся гандляваць! Не паслухалі правадыра, плюём на яго зараз, а ён, мудры, не толькі «Красавіцкія тэзісы» пісаў...

Між іншым, прагнозы майго добраахвотнага настаўніка збываліся. За гадзіну да мяне падышлі толькі тры чалавекі і я дзякаваў Богу, калі яны пыталі: колькі? Першым часам я сядзеў бы пень і адказваў скрозь зубы. Цяпер жа падскокваў, як кітайскі балванчык, і дробным макам рассыпаўся. Пра псіхалагічныя пакуты чамусьці ўжо не ўспамінаў. Аднекуль з'явіўся самому незразумелы азарт: прадаць! Нават не цікавіла за колькі, а —прадаць! Якраз гэта і не ўдавалася. Не ішла ўдача.

Затое прыйшлі «рэкеціры». Трое вялых з нагоды «пахмельнага сіндрому» ханурыкаў. Самы бойкі і цвярозы пацікавіўся:

— Ну, і колькі такая прыгажосць?

— Паўтары.

— Гм... Ну, і будзем за месца плаціць?

— Не зразумеў?

— Што ты не зразумеў? Па пяцёрачцы з месца збіраем. Так што гані давай.

— Давайце вы адсюль, хлопчыкі. І як мага хутчэй.

— Што?! Смелы такі?!

Я не ведаю, чым скончылася б «разборка», калі б не дзядзька.

— А ну пайшлі, так вашу і так! Што ты мне тут пагражаеш?! Я вас такіх там і там бачыў!

Дзядзька быў даволі мажны, таксама ж дастаў здаравенны складаны нож і пачаў дэманстратыўна выціраць аб ватоўку лязо. Верагодна, гэта і вырашыла праблему на нашу карысць. Ханурыкі зніклі. А мне пачалі ўспамінацца шматлікія расказы знаёмых пра гэты бок гандлёвай дзейнасці. Цяпер я сам пераканаўся, што ён, так сказаць, мае месца. Добра, гэтыя — проста п'янь, якую адшыць не так цяжка. А калі да цябе падыдуць грамілы і не ты ім, а яны табе пакажуць вялікі-вялікі ножык? Тут трэба падумаць. Вельмі добра падумаць. Словам, азарт у мяне прапаў. Відаць, Ільіча мы не паслухалі не дарэмна...

Небяспечная гэта штука — гандаль. Няхай нават прадаеш не сваё, а, мякка кажучы, займаешся пасрэдніцкай дзейнасцю. Па-першае, тавар элементарна можаш не прадаць. Не сезон. Ці не месца. Ці яшчэ што. Гэтых «ці» можа быць, як я пераканаўся, даволі многа. Трэба мець выдатна арганізаванае «гарышча», каб усё ўлічыць і прадугледзець.

Па-другое, існуе шмат іншых людзей, зацікаўленых у тваёй паспяховай рабоце, аднак яны не збіраюцца табе дапамагчы. Адзіная іх «дапамога» — аблягчэнне тваіх кішэняў. Так, сказаць, падатак на смеласць.

Па-трэцяе (тут я ўжо фантазірую ў межах рэальнасці), прыйдуць не грамілы, а вельмі нават афіцыяльныя таварышы. Пры дакументах і з партфелямі. І скажуць: а хто дазволіў? Што, так не можа быць?..

Тым не менш, мы маем такі факт: тысячы і тысячы людзей штосьці прадаюць. І ў іх атрымліваецца. Што, некаторым чынам, дзіўна. Бо—хто вучыў? Мне здаецца, меў месца якраз адваротны працэс, прычым вельмі прадуманы і пастаўлены на дзяржаўным узроўні. Калі вас могуць за продаж чагосьці камусьці расстраляць ці пасадзіць, то, згадзіцеся, мазгі ў вас пачынаюць працаваць у пэўным напрамку. У вас, у вашых дзяцей, унукаў і г. д. Раптам — свабода і дэмакратыя, і кажуць (праўда, і некаторыя з тых жа, што некалі расстрэльвалі): «Калі ласка, гандлюйце, саджаць не будзем» І вы перад дылемай: пачні — а раптам пасадзяць? З іншага боку—усё ж такі свабода. Што вас рухае да гандлю? Вядома ж, матэрыяльны інтарэс. І нічога новага я тут, канешне, не адкрываю. Як і ў тым, што ён вас навучыць гандляваць намнога хутчэй, чым заклікі самага мудрага з мудрэйшых. Адно прыкра: і тут дзікая стыхія, і тут — хто каго.

Адзін чытач нам напісаў, што гэтага можна было пазбегнуць. Моцна ў гэтым сумняваюся. Хутчэй, ён адлюстраваў папулярную ў народзе думку. Накшталт таго: вось быў бы жывы Ленін... Так у нас доўга думалі, бо чалавек заўсёды жадае верыць у лепшае. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

А пімы я так і не прадаў. Ну і што? Я не шкадую. Затое набыў вопыт і больш яснае, так сказаць, практычнае, разуменне некаторых рэчаў. Чаго і вам жадаю.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

ГІСТОРЫЯ БЕЗ «БЕЛЫХ ПЛЯМ»

# Нават расстраляныя, «ворагі народа» заставаліся пад каўпаком КДБ

**Органы дзяржбяспекі фабрыкавалі дакументы аб прычынах смерці палітзняволеных.**

Часопіс «Спадчына» апублікаваў у свой час (гл. № 4 за 1990 г. і № 1 за 1991 г.) цікавы матэрыял пра вядомага дзяржаўнага дзеяча Беларусі, вязня ГУЛАГа святара Адама Станкевіча, у якім, у прыватнасці, закраналася пытанне аб прычыне яго смерці. З прыведзенага часопісам афіцыяльнага дакумента МУС СССР, датаванага 25 верасня 1990 г., відаць, што Адам Станкевіч пасля асуджэння яго Асобай нарадай МУС СССР 31 жніўня 1949 года па «контррэвалюцыйным» 58-м артыкуле КК РСФСР на 25 гадоў пазбаўлення волі «памёр 4/XII.1949 г. ад атлусцення сэрца». Улічваючы раптоўнасць смерці ахвяры сталінска-берыеўскага самавольства, гэты дыягназ, як справядліва адзначае часопіс, выклікае супярэчлівыя пачуцці і прымушае сумнявацца ў шчырасці складальнікаў гэтага дакумента. Інфармацыя, узятая мною з архіва рэспубліканскага КДБ, думаецца, дазваляе сёння з большай упэўненасцю гаварыць аб сапраўднай прычыне смерці Адама Станкевіча і многіх іншых палітычных вязняў у гады сталінскага рэжыму, смерць якіх афіцыяльна тлумачылася (і, напэўна, тлумачыцца да гэтага часу) прычынамі, падобнымі да вышэйпрыведзенай.

Вельмі паказальны ў гэтых адносінах шэраг дакументаў архіўна-следчай справы Русецкага Эдмунда Сігізмундавіча (у 1924—1927 гг. другі, а затым першы намеснік наркома земляробства Беларусі Д. Прышчэпава), які быў арыштаваны органамі НКУС БССР 16 жніўня 1937 года па абвінавачванню ў шпіянажы на карысць польскай разведкі, шкодніцтве ў сельскай гаспадарцы, актыўным удзеле ў антысавецкім падполлі і пастановай наркома НКУС СССР і пракурора СССР 15 лютага 1938 года прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

У адным з дакументаў указана, што «пастанова наркома ўнутраных спраў СССР і пракурора СССР ад 15 лютага 1938 года аб расстрэле Русецкага Эдмунда Сігізмундавіча прыведзена ў выкананне 4 сакавіка 1938 года». Калі пасля смерці «лепшага сябра беларускага народа таварыша Сталіна» пачалася рэабілітацыя ахвяр палітычных рэпрэсій, жонка Русецкага Лізавета Міхайлаўна звярнулася ў Пракуратуру рэспублікі з заявай, што з часу арышту мужа яна не мае пра яго ніякіх звестак. Яна прасіла паведаміць пра яго лёс, перагледзець яго справу. Аналагічныя па сваёй сутнасці прашэнні былі накіраваны ёю ў Камісію партыйнага кантролю пры ЦК КПСС і Ваенную пракуратуру БВА. З апошняй інстанцыі заява паступіла 22 ліпеня 1957 года ў КДБ пры Савеце Міністраў БССР.

Разгледзеўшы яе, улікова-архіўны аддзел Камітэта, дакладна ведаючы сапраўдную прычыну смерці Э. Русецкага, прымае, «кіруючыся ўказаннем КДБ пры СМ СССР № 108/СС-1955 г.», заключэнне: «у ЗАГСе выканкома Сталінскага райсавета дэпутатаў працоўных г. Мінска зарэгістраваць смерць Русецкага Э. С. у час знаходжання яго ў зняволенні 3 лютага 1942 года ад артэрыясклерозу, аб чым паведаміць заяўніку». У той жа дзень прынятае рашэнне стала ажыццяўляцца, аб чым сведчыць наступны афіцыяльны дакумент архіўна-следчай справы.

КДБ пры СМ БССР 25 ліпеня 1957 г. № 4/8613 г. Мінск.

У ЗАГС Сталінскага раённага выканаўчага камітэта Савета дэпутатаў працоўных г. Мінск.

Просім зрабіць рэгістрацыю смерці гр-на Русецкага Эдмунда Сігізмундавіча, 1893 года нараджэння, ураджэнца вёскі Паданы Самахвалавіцкага сельсавета Мінскага раёна і вобласці.

Паводле наяўных даных, Русецкі Э. С. памёр у месцах зняволення 3 лютага 1942 года ад артэрыясклерозу.

Да арышту Русецкі Э. С. жыў па адрасу: гор. Мінск, вул. Свярдлова.

Раней смерць гр-на Русецкага Э. С. ва ўстаноўленым законам парадку зарэгістравана не была. Цяпер смерць Русецкага Э. С. рэгіструецца ў сувязі з узнікшай неабходнасцю ў атрыманні родзічамі ўстаноўленага законам пасведчання аб яго смерці.

Пасведчанне аб смерці Русецкага Э. С. просім выдаць яго жонцы — Русецкай Лізавеце Міхайлаўне, якая жыве па адрасу: гор. Мінск, 2-гі Слонімскі завулак, дом, 5 кв. 2.

Начальнік аддзела КДБ пры СМ БССР (Емяльянаў).

Архіўныя дакументы органаў дзяржбяспекі не даюць адказу на пытанне, ці атрымала нарэшце жонка Русецкага гэтае «дакументальнае» пасведчанне аб яго смерці. Яны ўказваюць толькі на тое, што аб прычыне смерці супрацоўнікамі КДБ «адпаведна з заключэннем заяўніку аб'яўлена вусна 23/VIII. 57». Зусім магчыма, што блізкія Русецкага (у 1957 г. 60-гадовая Лізавета Міхайлаўна жыла разам з 34-гадовай дачкой Галінай Эдмундаўнай) так і не даведаліся праўды (або, прынамсі, доўгі час пра яе не ведалі) нават пасля яго рэабілітацыі 14 лістапада 1957 года, паколькі змест афіцыяльных вызначэнняў аб рэабілітацыі загінуўшых ахвяр сталінскіх палітычных рэпрэсій тады аб'яўляўся блізкім родзічам, як гэта вынікае з наяўных у мяне адрывачных даных, не поўнасцю: паведамляўся толькі вынік перагляду справы, г. зн. тое, што справа ў крымінальным парадку спынена з-за адсутнасці саставу злачынства.

Такім чынам, сапраўдныя прычыны смерці гэтых няшчасных усяляк утойваліся. Хацелася б, каб Адам Станкевіч быў выключэннем. Больш таго — каб памянёная, яўна недэмакратычная інструкцыя КДБ пры Саўміне СССР 1955 года да часу яго смерці ўжо не прымянялася. Заяўленае імкненне рэспублік былога Саюза да прававой дзяржавы стварае ўмовы для адмаўлення ад спадчыны таталітарнага рэжыму: не апублікаваная агульнанародна, гэта інструкцыя з пазіцый сучаснага заканадаўства з'яўляецца проціпраўнай.

**Мікалай НЕСЦЯРОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук, супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі.**

# РОЗГАЛАС

## ІСТОТНАЕ ЎДАКЛАДНЕННЕ

**Нейкі час назад «Звязда» са спасылкай на газету «Беларускі рынак» паведаміла аб беспрэцэдэнтным заказе, які ўрад Рэспублікі Беларусь даў Магілёўскай універсальнай рэгіянальнай біржы. Біржы быццам бы даручалася закупіць для рэспублікі мільён тон збожжа. Журналісты газеты «Камерсант Беларусі», якая выдаецца ў Магілёве, вырашылі праверыць гэтае паведамленне і звярнуліся да старшыні біржавага камітэта МУРБ Барыса Кліменкі. Высветлілася, што ніякіх дзяржзаказаў ці неафіцыяльных прапаноў ад Савета Міністраў і іншых урадавых структур вышэйназваная біржа не атрымлівала.**

## НЕ ЧАКАЛІ...

Як стала вядома з добра паінфармаваных крыніц, у пятніцу Старшыня ВС Рэспублікі Беларусь вырашыў праверыць умовы працы работнікаў сакратарыята і народных дэпутатаў, якія працуюць у ВС на пастаяннай аснове. Станіслаў Станіслававіч хацеў прааналізаваць, наколькі эфектыўна выкарыстоўваюцца плошчы і ці ёсць рэзервы для размяшчэння іншых дзяржаўных устаноў у велічным будынку.

Але ж гэта высакародная мэта на справе вылілася ў бліскучы доказ справядлівасці славутай прымаўкі, згодна з якой нязваны госць горшы за татарына. Некаторыя функцыянеры і ўявіць не маглі, што Шушкевіч здзейсніць такі «вояж» менавіта ў пятніцу, таму, як і некалі, сёй-той спакойненька накіроўваўся хто ў краму, хто на дачу. «Салдат спіць — служба ідзе», — менавіта так, напэўна, і меркавалі. Аднак гэты «эфект адсутнасці» для аматараў даўніны ўжо ў панядзелак даў аб сабе знаць. Мабыць, аднымі тлумачальнымі запіскамі справа не скончыцца. І то праўда: хочаш працаваць— працуй...

**Уладзя ТАЦЦЯНЧЫК.**

## ПРАМАХНУЎСЯ...

БАРАНАВІЧЫ. Не ўдалося атрымаць жыхару Санкт-Пецярбурга М. значка «Меткі стралок», калі ён пальнуў сярод белага дня з дзедаўскага рэвальвера (1915 года выпуску) па слесару мясцовага аўтапарка. Апошні быў дастаўлены ў бальніцу з прастрэленай галёнкай, а «іншаземец» — у аддзел міліцыі.

## НАШАЙ БЫ ЗЯМЛІ— ДЫ СТАЛЫПІНСКУЮ РЭФОРМУ...

**1 кастрычніка ў Мінску ў будынку Вярхоўнага Савета рэспублікі адбылася прэс-канферэнцыя, якую далі журналістам члены Аграрнай камісіі пры Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь на чале з яе старшынёй Уладзімірам Гаркуном. Асноўнымі тэмамі выступленняў сталі праект Закона аб Зямлі і становішча ў эканоміцы аграрна - прамысловага комплексу.**

У. Гаркун адзначыў, што праект Закона аб зямлі ў першым чытанні быў адобраны Вярхоўным Саветам. Ён прадугледжвае тры віды ўласнасці на зямлю: прыватную, дзяржаўную і калектыўную. Прычым апошняя форма разглядаецца як пераходная, якая пры развітой рынкавай эканоміцы павінна сама па сабе адмерці. Пакуль жа яна неабходна для абароны існуючых калектыўных гаспадарак.

Яшчэ адзін важны момант праекта Закона — парадак перадачы зямлі ва ўласнасць. Яна будзе ажыццяўляцца па двух напрамках — платна і бясплатна.

Уводзіцца таксама паняцце «залогавага права». За ўласнікам замацоўваецца права распараджацца зямлёй па свайму меркаванню: прадаваць, перадаваць у спадчыну, здаваць у арэнду. Вяртанне зямельнай уласнасці былым уладальнікам пры гэтым не дапускаецца. Менавіта гэты момант пры абмеркаванні праекта на Кансультатыўным савеце выклікаў шмат рознагалоссяў.

У цэлым, на думку ўдзельнікаў прэс - канферэнцыі, гэты праект Закона выражае сутнасць зямельнай рэформы — выкарыстаць зямлю як мага больш эфектыўна.

Што датычыцца цэнаў, то было адназначна сказана: дзяржава рэгулюе іх толькі на мяса, малако і хлеб. Гэты фактар нявыгадны для сельскіх працаўнікоў, ставіць іх у няроўнае становішча з работнікамі прамысловасці.

Прамоўцы запэўнілі журналістаў, што, нягледзячы на засуху мінулага лета і звязаную з гэтым паніку, насельніцтва рэспублікі, тым не менш, будзе забяспечана прадуктамі харчавання.

Некалькі разрадзіла афіцыяльную атмасферу сустрэчы вельмі эмацыянальнае выступленне Яўгена Лугіна — старшыні Беларускай сялянскай партыі. Ён заявіў, што лічыць гэты закон антынародным, і спрабаваў зачытаць прысутным заяву ў падтрымку зямельнай рэформы ўдзельнікаў «круглага стала» — шэрагу палітычных партый, аб'яднанняў, які праходзіў 26 верасня. Аднак гэта выступленне было яўна не запланавана арганізатарамі прэс - канферэнцыі, і тыя, спасылаючыся на ліміт часу, папрасілі Я. Лугіна вызваліць памяшканне.

**Ірына ЛЕЎШЫНА. (БелаПАН).**

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

## УЛАСНАСЦЬ—ЧАМАДАН, ЯКІ ЦЯЖКА НЕСЦІ, АЛЕ ШКАДА КІНУЦЬ

**НА ПЫТАННІ КАРЭСПАНДЭНТА «ЗВЯЗДЫ» АДКАЗВАЕ ПРАФЕСАР ІНСТЫТУТА ЭКАНОМІКІ ІРЫНА АЛЯКСЕЕЎНА МІХАЙЛАВА-СТАНЮТА.**

**— У чым вы бачыце сэнс прыватызацыі? І ці мае яна сэнс наогул?**

— З усіх задач, якія можа або, дакладней, павінна вырашыць прыватызацыя сродкаў вытворчасці, у якасці галоўнай я выдзеліла б рост эфектыўнасці вытворчасці. Калі ўдасца вырашыць гэтую задачу — значыць мэта дасягнута.

**— Ну, і ці ўдасца, на ваш погляд, вырашыць гэтую задачу?**

— У гэтым я не ўпэўнена. Здаецца, хутчэй не, чым так. Прыватная ўласнасць — гэта ўсё-такі прыватная ўласнасць. У нас жа націск робіцца на калектыўную, дзе ўласнік «размыты». А гэта значыць, што поспех або паражэнне ў бізнесе дзеліцца на ўсіх. І гэты поспех малаадчувальны ў фінансавым аспекце. Вопыт замежных краін паказвае, што там калектыўныя прадпрыемствы найменш рэнтабельныя, бо менш рызыкуюць і імкнуцца да сацыялістычных прынцыпаў аплаты працы (г. зн. да ўраўнілаўкі), што «забівае» імкненне да росту індывідуальнай прадукцыйнасці працы. Гэта першае.

Другое ў тым, што прыватызацыя ў нас — гэта ўсё ж падзел уласнасці. А галоўная мэта —яе памнажэнне. Надзея ж заўсёды адцягвае ўвагу ад памнажэння. Таму зараз эканоміка перажывае самы небяспечны момант: дзяржава ўжо не кіруе прадпрыемствамі як уласнік, а прадпрыемствы ў асобе адміністрацый, не з'яўляючыся ўласнікам, пачынаюць распараджацца маёмасцю і прыбыткам па-свойму. Гэта паскарае развал у эканоміцы, бо аб будучым ніхто не клапоціцца: не займаюцца тэхнічным пераўзбраеннем, рэканструкцыяй, абнаўленнем. І гэта на фоне вялікага зносу асноўных фондаў. На МАЗе, напрыклад, фізічны знос складае амаль 40 працэнтаў. Маральна ж фонды ўстарэлі яшчэ больш.

**— Атрымліваецца, што не трэба займацца прыватызацыяй.**

— Я гэтага не казала. Але не трэба разглядаць прыватызацыю як панацэю. Трэба ёю займацца нароўні з іншымі праблемамі, якія вызначаюць развіццё рынкавых адносін. Я маю на ўвазе забеспячэнне ўстойлівасці фінансава-грашовай сістэмы, развіццё свабоднага прадпрымальніцтва, нармалізацыю сістэмы цэнаўтварэння і г. д. Вопыт краін былога сацлагера паказаў, што ўсё трэба рабіць адначасова, а не паэтапна. Эканоміка — гэта комплексная сістэма, у якой усё ўзаемазвязана.

**— Ці ёсць прынцыпы, па якіх праходзіць прыватызацыя ў Беларусі? Калі ёсць, то якія?**

— Асноўныя канцэптуальныя палажэнні, уключаючы мэты і прынцыпы прыватызацыі, былі адобраны Вярхоўным Саветам БССР яшчэ ў чэрвені 1991 года. Там аб прынцыпах было так сказана: дапушчальнасць розных метадаў, форм і працэдур прыватызацыі, спалучэнне шчыльнасці і бясплатнасці, прадастаўленне прыярытэту ў набыванні ўласнасці працоўным калектывам, галоснасць, кантроль, добраахвотнасць і паэтапнасць. Увогуле, усе тыя стандарты, якія павінны суправаджаць прыватызацыю, як і любы іншы эканамічны працэс.

**— Тады дазвольце з гэтага набору выбраць што-небудзь канкрэтнае, напрыклад, формы прыватызацыі. Якім, на ваш погляд, аддаецца перавага?**

— На першым часе ў заканатворчых актах было прама ўказана на арэнду з выкупам як форму, якой урад аддае перавагу. А зараз, па-мойму (і я гэтаму рада, таму што была і застаюся прыхільніцай акцыяніравання), перавага аддаецца акцыяніраванню. Арэнда з выкупам — гэта вельмі працяглае мерапрыемства, нявыгаднае калектыву: акрамя сумы выкупу, трэба яшчэ доўгі час выплачваць арэндную плату. Да таго ж, уласнасць не ўдаецца строга дакументальна індывідуалізаваць, гэта значыць у каштоўных паперах, як гэта дасягаецца пры акцыяніраванні.

**— Якое, на ваш погляд, ключавое пытанне прыватызацыі?**

— Ацэнка ўласнасці. Нават ва ўстойлівай рынкавай сістэме з рынкавай статыстыкай цэн пытанне аб цане з'яўляецца галоўным. У краінах былога сацлагера — і ў Венгрыі, і ў Польшчы, і ў Балгарыі —прыватызацыя нават часова спынілася з-за недасканаласці ацэнкі аб'ектаў, якая прыводзіла да злоўжыванняў і махлярстваў.

Даводзілася для ацэнкі запрашаць заходніх экспертаў, якія ацэньвалі прадпрыемствы па сваіх аналагах у валюце, а затым пераводзілі ў нацыянальную грашовую адзінку. Экспертам за гэта плацілі вялікія грошы — работа складаная і адказная.

**— А як ацэньваюць у нас?**

— Пакуль што па інструкцыях. Бярэцца першапачатковы балансавы кошт асноўных фондаў, памнажаецца на каэфіцыент росту цэн, вызначаны Дзяржкамстатам (па ўсіх вытворчых будынках, напрыклад, ён аднолькавы і залежыць толькі ад тэрмінаў будаўніцтва), і мінусуецца знос.

**— Адчуваю, што ў вас ёсць пярэчанні наконт гэтага?**

— Канешне. Я ж акадэмічны работнік. Вывучаю якраз метадычныя прыёмы ацэнкі, якія выкарыстоўваюць розныя краіны, і разумею, наколькі яны складаныя і шматварыянтныя. Мяне вельмі засмучаюць тыя абставіны, што ў рэспубліцы не распрацавана методыка ацэнкі прадпрыемства па яго даходу або метадах грашовага патоку, ацэнкі вэксаляў, акцый, крэдыторскай і дэбіторскай запазычанасці, інтэлектуальнай уласнасці ва ўмовах інфляцыі, г. зн. у рэальных умовах нашай эканомікі. На мой погляд, нельга аб'ект, які сёння прадаецца, ацэньваць у цяперашніх цэнах, у цэнах на 1 кастрычніка 1992 года, ведаючы, што з 1 студзеня 1993 года ён падаражае ў некалькі разоў. Цану трэба «адчуваць». І пры ацэнцы кожнага канкрэтнага аб'екта выкарыстоўваць той ці іншы метад яе вызначэння. Нельга таксама прымушаць калектыў выкупляць «увесь хлам», які аказаўся выпадкова на балансе прадпрыемства, толькі таму, што прыватызацыі належыць аб'ект у цэлым, тым больш замацоўваць гэта ў палажэннях аб прыватызацыі.

**— «Падпольная» прыватызацыя. Як вы яе ацэньваеце?**

— Як і вы. Па публікацыях у газетах.

**— Як пазбегнуць хабарніцтва пры прыватызацыі?**

— Тут уся справа ў цане. Калі цана рэальная, то не трэба даваць хабар і не трэба падпольна прыватызаваць. Цана павінна адлюстроўваць усё да дробязей, у тым ліку попыт: ёсць попыт — цана высокая, няма — ліквідная, па цане лому, калі зноў жа на яго ёсць попыт.

**— І апошняе пытанне, Ірына Аляксееўна. Чаму прыватызацыя дзяржмаёмасці праходзіць у такім вялым рэжыме?**

— Ёсць прыказка: паспяшыш, людзей насмяшыш. Калі прыватызацыю праводзіць дзеля таго, каб проста лічыць, што «працэс пайшоў», то гэта можна зрабіць хутка. Але гэта нічога не зменіць у эканоміцы. Да прыватызацыі аб'ект трэба рыхтаваць: выбраць форму, якая можа даць вынік, гэта значыць узняць эфектыўнасць вытворчасці, пралічыць гэты эфект — растлумачыць яго паходжанне і размеры, вызначыць дадатковыя ўкладанні і іх крыніцы, прыдумаць спосаб прывязкі сумежнікаў або ўключэння замежных інвестараў, ацаніць, нарэшце, знайсці спосабы выкупу: кім і за кошт якіх сродкаў і г. д., і г. д. Гэта называецца стратэгічным бізнес-планаваннем, якім павінны авалодаць прадпрыемствы і кожны з нас, калі збіраецца стаць уласнікам. Бачыце, з уласнасцю вельмі многа трэба «важдацца». Гэта як чамадан, які цяжка несці, але шкада кінуць. Таму ўзнагародай уласніку павінен быць прыбытак. Але яго атрымаць не так лёгка, як гэта часам здаецца недасведчанаму. Вось чаму непрадуманая прыватызацыя можа не апраўдаць спадзяванняў на яе.

**Гутарыў Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## ДА ЎРУЧЭННЯ ВЯРЫЦЕЛЬНЫХ ГРАМАТ

5 кастрычніка Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Каралеўства Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь Карл-Ота Эр'ян Бернер уручыў вярыцельныя граматы кіраўніку беларускага парламента Станіславу Шушкевічу.

Карл-Ота Эр'ян Бернер нарадзіўся ў 1937 годзе ў горадзе Лунд. Пасля навучання ў Лундскім і Стакгольмскім універсітэтах на факультэтах права і гуманітарных навук, у 1960 годзе паступіў на работу ў Міністэрства замежных спраў Швецыі. З 1961 па 1964 год знаходзіўся на дыпламатычнай службе ў Нью-Йорку ў прадстаўніцтве Швецыі пры ААН. З 1964 па 1967 год працаваў спачатку ў МЗС Швецыі ў Стакгольме, а затым памочнікам дырэктара Стакгольмскага міжнароднага інстытута сусветных даследаванняў.

Займаў розныя пасады ў пасольствах Швецыі ў Пекіне (1967—1970 гг.) і Маскве (1970—1974 гг.), затым быў назначаны начальнікам аддзела міжнародных арганізацый МЗС Швецыі. Знаходзіўся на гэтай пасадзе да 1978 года, калі атрымаў новае назначэнне — пасланнікам Пасольства Швецыі ў Парыжы.

З 1983 па 1984 год працаваў у Цэнтры міжнародных адносін пры Гарвардскім універсітэце ЗША, дзе была апублікавана яго кніга «Савецкая палітыка ў адносінах да паўночных краін». З 1984 па 1987 быў паслом Швецыі ў Польшчы, а ў наступныя два гады — у Індыі, Шры-Ланцы, Непале і Бутане. З чэрвеня 1989 года — пасол Швецыі ў СССР, са снежня 1991 года— пасол Швецыі ў Расійскай Федэрацыі. З чэрвеня 1989 года з'яўляецца таксама паслом Швецыі ў Манголіі.

**Аддзел інфармацыі МЗС Рэспублікі Беларусь — БЕЛІНФАРМ.**

## Дні Швецыі на Беларусі

З сённяшняга дня пачынаюцца Дні Швецыі на Беларусі, якія праводзяць Гандлёва-прамысловая палата Рэспублікі Беларусь сумесна з гандлёвым аддзелам пасольства Швецыі ў Маскве і стакгольмскім банкам «Нордбанкен». У рамкі гэтых Дзён уключаны семінары-прэзентацыі і міні-выстаўкі шведскіх фірм, экспазіцыя, прысвечаная Альфрэду Нобелю, шырокая культурная праграма з дэманстрацыяй лепшых кінастужак гэтай скандынаўскай краіны. Дні Швецыі пройдуць да 9 кастрычніка.

## КАБ НА СТАЛЕ БЫЛІ ДРАНІКІ

**Хоць і вялікая дзірка ў сёлетнім бюджэце Пінска, але па прапанове дэпутатаў мясцовага Савета была знойдзена магчымасць выдзеліць 50 тысяч рублёў у так званы бульбяны фонд. Усе адзінокія малазабяспечаныя жыхары горада атрымаюць на пакупку бульбы па 500 рублёў. Прыемная дробязь!**

## З'ездзілі ў Вашынгтон бясплатна, а крэдытаў трэба пачакаць

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

ка С. Багданкевіч прадставіў фінансавым «заправілам» гэтага свету нашу рэспубліку. І, як падкрэслівалася, нядрэнна прадставіў.

Але ж, безумоўна, галоўнае— не гэта. Што для нас тая ж сусветная эканоміка, калі «свой чаравік ціснe»? Відаць, і нашу дэлегацыю хвалявала найперш менавіта гэта. Карацей кажучы, нам крайне неабходна цяпер фінансавая дапамога, патрэбны замежныя крэдыты. І, вядома ж, на льготных умовах. І проста грэх было б не скарыстаць шырокія магчымасці МВФ. Калі ўжо прынялі ў ім членства. Ды і да каго яшчэ звяртацца? Тым больш, што і ў МВФ менш за ўсё схільныя адносіць нашу рэспубліку да «донараў»... Наконт крэдытаў было сказана і на сесіі.

Іх нам пакуль што не далі. Але паабяцалі. А пры гэтым выставілі шэраг дакладных сустрэчных патрабаванняў, якія актыўна падштурхоўваюць рэспубліку ў рынкавым напрамку. Што гэта за патрабаванні? Першае, і самае галоўнае—рэспубліцы прапанавалі дакладна вызначыцца адносна рублёвай зоны. Альбо мы ў ёй знаходзімся, альбо не. Гэта, аднак, зусім не азначае, што мы абавязкова павінны выйсці—патрэбны канкрэтнасць, канчатковае рашэнне.

Другое: ад рэспублікі запатрабавалі эканамічны мемарандум, праграму, з якой добра была б відаць наша эканамічная палітыка. Прычым падобная праграма, падобная палітыка павінны быць узгоднены з МВФ і Сусветным банкам. Дарэчы, здаецца ж, былі падобныя праграмы, і міжнародныя «спяцы» іх глядзелі... Усё тлумачыцца проста: справа дайшла да выдзялення канкрэтных сродкаў, якія на Захадзе не жадаюць траціць марна, не хочуць, каб мы прасілі гэтыя сродкі зноў і зноў. На Захадзе менш за ўсё зацікаўлены ў нейкай дабрачыннай акцыі. Мы, выкарыстоўваючы гэтыя сродкі, павінны дапамагчы сабе самі, а не проста праесці іх. Рэспубліка павінна прадставіць і дакладныя напрамкі структурнай перабудовы.

Наступнае з патрабаванняў: належыць пайсці на лібералізацыю цэн (а мы, грэшныя, думалі, што «лібералізаваліся» ўжо далей няма куды), адмовіцца ад датацый на шэраг тавараў. У гэтым выпадку прасочваецца дакладнае імкненне адлучыць урэшце нас ад стратнай эканомікі, чаго мы самі, дарэчы, дабіваемся, напэўна, столькі ж часу, колькі існуе ў нас калектыўная ўласнасць. І ўвесь час — з аднолькавым поспехам.

Яшчэ адно з патрабаванняў — дамагчыся дэфіцыту бюджэту не больш 2 працэнтаў ад ВНП. Мы, як можна было зразумець М. Румаса, паспяхова адбіліся, спаслаўшыся на Чарнобыль.

Толькі пры выкананні гэтых асноўных патрабаванняў, умоў нас могуць дапусціць да доўгатэрміновых крэдытаў і найперш выдзеліць рэабілітацыйныя, выгадныя, як адзначалася, для нас крэдыт тэрмінам на 17 гадоў з пагашэннем, пачынаючы з шостага года.

Варта яшчэ раз вярнуцца да першай умовы. Яна найбольш важная. Вызначыцца наконт рублёвай зоны — па сутнасці вызначыцца і з далейшай эканамічнай палітыкай. Мяркуючы па выказваннях С. Багданкевіча, мы ўжо ў хуткім часе можам даведацца аб пэўных зменах (варта зазначыць, што па выніках удзелу ў рабоце сесіі МВФ і перагавораў наконт крэдытаў дэлегацыяй падрыхтаваны адпаведныя прапановы ўраду). У прыватнасці, С. Багданкевіч, як можна меркаваць, схіляецца да абарачэння ўнутры рэспублікі нашых разліковых білетаў, а ў міжрэспубліканскіх разліках — расійскага рэзервовага рубля. Увогуле, наш галоўны банкір, які тэарэтычна па-ранейшаму за адзіную рублёвую зону, бо «нам выгадна мець агульную валюту», у апошні час значна «палявеў» і, як ён сам адзначыў, становіцца на пазіцыю БНФ. Рублёвая зона ў яго выступленні, дакладней — яе цяперашні стан, была падвергнута самай жорсткай крытыцы. Адзначалася, што яна існуе намінальна, яе практычна ўжо няма, што рубель даўно ўжо не выступае ў якасці адзінага плацежнага сродку. Паміж рэспублікамі ў ходзе двухбаковы клірынг, і, напрыклад, «казахстанскі» рубель нельга выкарыстаць для аплаты расійскіх паставак. Няма ўзгодненасці ў крэдытнай эмісіі, дасягнуць з іншымі рэспублікамі наконт гэтага колькасных параметраў — амаль немагчыма. Пры гэтым, аднак, было адзначана, што ў нас крэдытная эмісія такая ж, як і ў Расіі. А што датычыцца плацежнага балансу, то мы маем актыўнае сальда ў адносінах з Украінай і Казахстанам і пасіўнае — з Расіяй, да якой залезлі ў крэдыт на 40 мільярдаў.

Увогуле ж, на думку С. Багданкевіча, нам патрэбны плацежны саюз і агульная для міждзяржаўных разлікаў валюта тыпа «экю», прычым функцыі апошняй мог бы ўзяць на сябе расійскі рубель, пра што ўжо гаварылася вышэй.

Як галоўны банкір рэспублікі глядзіць на стварэнне міжбанкаўскага саюза, ідэя якога носіцца ў паветры?

Згодны, калі прынцып стварэння будзе наступны: адна дзяржава — адзін голас, а не зыходзячы з аб'ёму капіталаў; калі таксама будуць закладзены ў аснову такога саюза жорсткія санкцыі — адказнасць наконт абумоўленых колькасных параметраў крэдытнай эмісіі, дэфіцыту бюджэту і г. д. Інакш — супраць. Хопіць дэкларатыўнасці.

На прэс-канферэнцыі закраналіся і іншыя пытанні. У прыватнасці, названы наш пай, які мы павінны ўнесці ў МВФ 22 кастрычніка — каля 250 мільёнаў долараў, пры гэтым узнос у валюце складзе 22 працэнты.

Да таго часу, пакуль мы вырашым асноўныя пытанні крэдытавання, Сусветны банк выдзеліць нам 20—21 мільён долараў на льготных умовах на стварэнне інстытутаў рынкавай эканомікі. Вяліся таксама перагаворы наконт прыёму нашых спецыялістаў у інстытут МВФ. Адзначаліся сустрэчы ў кулуарах, падчас якіх размова таксама ішла аб крэдытах, увогуле — інвестыцыях у нашу эканоміку. Кіраўнік Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця паабяцаў адкрыць у Мінску прадстаўніцтва, але адпаведнай дапамогі можа чакаць пераважна прыватны бізнес. Перагаворы са спецыялістамі з МВФ і Сусветнага банка будуць прадоўжаны ў канцы кастрычніка.

А яшчэ гаварылася наконт камерцыйных банкаў, якія не апраўдалі спадзяванняў нашага галоўнага банкіра, ды і кіраўніцтва Мінфіна, што патрабаванні да іх трэба зрабіць больш жорсткімі. Закранаўся цяперашні высокі курс долара, пры гэтым С. Багданкевіч адзначаў надзвычайную выгаднасць яго для экспарцёраў. Адпаведна трэба выкарыстоўваць усе магчымасці для расшырэння экспарту, пераўтвараць кожны зароблены долар у 300 рублёў, а не складзіраваць сваю прадукцыю або адпраўляць яе неплацежаздольным банкрутам у іншыя рэспублікі і потым выпрошваць крэдыты.

І яшчэ падкрэслівалася — дзеля інфармавання шырокай грамадскасці: уся паездка нашай дэлегацыі на сесію поўнасцю прафінансавана МВФ.

Што ж, у гэтым выпадку канкрэтны вынік ёсць. А доўгатэрміновых крэдытаў яшчэ трэба чакаць.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

## ЧАС ЗБІРАЦЦА Ў ОПЕРУ

**Скончыўся час летняга адпачынку ў артыстаў мінскіх тэатраў. 6 кастрычніка спектаклем С. Пракоф'ева «Вайна і мір» пад кіраўніцтвам Г. Праватарава (рэжысёр С. Штэйн) свой юбілейны сезон адкрывае галоўная музычная сцэна рэспублікі — Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета.**

Час пацвярджае неабходнасць гэтага спектакля ў рэпертуары тэатра, бо сёння як ніколі нас хвалюе і філасофская глыбіня неўміручага рамана Талстога, і поўная лірычнай абаяльнасці і эпічных роздумаў музыка Пракоф'ева, і само выкананне твора, якое заўсёды адбываецца на вышэйшым узроўні.

Работнікі тэатра паклапаціліся і аб тым, каб гледачы, якія прыйдуць увечары 6 кастрычніка, не толькі атрымалі асалоду ад спектакля, але і цікава правялі час у антракце. У фае тэатра разгорнуцца дзве выстаўкі.

Першая — «Хроніка мінулага сезона» — у фотаздымках, афішах, водгуках айчыннай і замежнай прэсы даволі поўна адлюстроўвае леташнія падзеі: оперныя і балетныя прэм'еры, бенефісы, гастролі...

А другая — вельмі цікавы паказ тэатральнага опернага касцюма.

8 кастрычніка тэатр запрашае ўсіх на спектакль «Тоска» Дж. Пучыні. Партыю Каварадосі ў гэтым спектаклі выканае цудоўны М. Грыгорчык. Імя гэтага маладога артыста ўжо шырока вядома і, безумоўна, прыцягне ўвагу ўсіх прыхільнікаў яго таленту.

У новым сезоне прадоўжыць свае пасяджэнні і Клуб оперы.

**Таццяна АЛЯКСАНДРАВА.**

ПРЭМ'ЕРА

## ХЭЛО, ШЧАСЦЕ МАЁ!

**Гэта цудоўная гісторыя пра стройную прыгажуню і нязграбнага джэнтльмена адбылася недзе на Захадзе. Амаль трыццаць гадоў назад яе мелодыі захапілі ўвесь свет. Папулярныя былі яны і ў нашай краіне. Мінуў час, і добра забытае старое зноў стала першакласным шлягерам, тым больш, што гэта гісторыя пра закаханых нарэшце ўвасобілася на нашай сцэне.**

**Дзяржаўны тэатр музкамедыі ажыццявіў пастаноўку мюзікла «Хэло, Долі!»**

**Рэжысёр - пастаноўшчык лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі В. Цюпа, музычны кіраўнік і дырыжор А. Сасноўскі, мастакі У. Жданаў і В. Жылонкіна разам з артыстамі шмат папрацавалі. Мюзікл, безумоўна, упрыгожыць рэпертуар музкамедыі і стане чарговым сведчаннем творчай сталасці калектыву.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: у ролі гаспадыні магазіна салістка Святлана ЛУГАВА; сцэна з мюзікла.**

## З КАБІНЕТА СЛЕДЧАГА

## ЗАБОЙЦА

**Трагедыя, што адбылася ў пасёлку Кіраўскае Глускага раёна, узрушыла мясцовых жыхароў. У сельскім Доме культуры пастаянна па суботах праходзяць дыскатэкі. Але ніколі не было выпадку, каб каго-небудзь з моладзі пабілі. А тут забойства...**

Усё было спакойна да таго часу, пакуль у суседнюю вёску ў снежні мінулага года не вярнуўся з месц пазбаўлення волі Марат Г. У свае 25 гадоў ён, як кажуць, прайшоў агонь, ваду і медныя трубы: двойчы быў асуджаны за крадзяжы дзяржаўнай і асабістай маёмасці, апошні раз — да 4 гадоў пазбаўлення волі.

Будучы прызваным у армію пасля адбыцця тэрміну пакарання, Марат ухіляўся ад ваеннай службы, дэзерціраваў з воінскай часці, за што быў асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі.

Вызваліўшыся ў снежні 1991 года з месц пазбаўлення волі і прыбыўшы на пастаяннае месца жыхарства да сваёй старой маці, Марат не спяшаўся ўладкоўвацца на работу, п'янстваваў. У пасёлку Кіраўскае, на дыскатэцы, падагрэты «гарачымі» напіткамі, Марат стаў без прычыны прыставаць да дзяўчат, пагражаў ім расправай. У другой гадзіне ночы, калі мастацкі кіраўнік Алена Кароль у сувязі з познім часам стала зачыняць клуб, Марат пачаў брыдка лаяцца. А калі Алена паспрабавала зрабіць заўвагу, ухапіў яе за валасы, спрабаваў біць. Сяргей Мішур хацеў супакоіць прыяцеля. Аднак той нібы звар'яцеў. Дасталося і Сяргею. Той кінуўся наўцёкі. Але раз'юшаны хуліган не супакойваўся. Нагнаў сваю ахвяру ў скверы, пачаў лупцаваць з яшчэ большай лютасцю. Біў ужо ляжачага...

Такога жорсткага забойства ў Глускім раёне не было многія гады.

Нават на цвярозую галаву Марат ва ўчыненым ім цяжкім злачынстве не пакаяўся і лічыць, што ў тым, што здарылася, вінаваты сам загінуўшы, якому, маўляў, не трэба было рабіць заўваг аб дрэнных паводзінах.

Наперадзе суд. Ён вызначыць меру пакарання забойцу.

**А. ХЕНЬКІН, следчы пракуратуры Глускага раёна, малодшы саветнік юстыцыі.**

**Выпуск «Розгаласа» падрыхтавалі: І. Карней, А. Коктыш, А. Сланеўскі, С. Сулкоўскі, І. Шчучэнка.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

## СЕНСАЦЫЯ МЯСЦОВАГА МАШТАБУ

Сенсацыя з'явілася ў адным з нумароў латвійскай газеты **«СМ — сегодня»** (былой «Советской молодежи») і належала дагэтуль невядомаму рыжскаму юрысту Анатолю Траніку. Уласна кажучы, для народа Латвіі, гэтак жа як і для народа Беларусі, яго заява, магчыма, і малацікавая. Транік аб'явіў, што Мікалай II памёр 6 лютага 1957 года ў горадзе Сухумі.

...Два гады назад юрыст Транік у Сухумі пазнаёміўся са старым манахам, які расказаў яму пра сям'ю Бярозкіных. Гэтыя Бярозкіны быццам і з'яўляюцца нашчадкамі імператара. Сам Сяргей Давідавіч Бярозкін (раней вядомы пад імем Мікалая II) за час свайго жыцця ў Сухумі працаваў на чыгунцы, у сталовай дзяржбяспекі, у НДІ чаю і цытрусавых.

А ў Екацярынбургу, на версіі Траніка, расстралялі двайнікоў, якіх спецыяльна прывезлі з Масквы. Царскую ж сям'ю ў дзень расстрэлу быццам бы вывезлі з Іпацьеўскага дома — адпаведны загад грунтаваўся на тайных артыкулах Брэсцкага міру.

Да гэтага часу ў Сухумі жыве дачка Бярозкіна — ёй 95 гадоў. Анатоль Транік лічыць, што гэта адна з вялікіх княгінь.

27 ліпеня 1992 года ў Навукова-даследчай лабараторыі судовых экспертыз і крыміналістыкі была завершана экспертыза па параўнанню фатаграфій членаў сям'і Мікалая II і Бярозкіных. Выкарыстоўваліся два метады атаясамлівання: якасных прыкмет (параўноўвалася знешнасць) і матэматычны (супадзенне адносных памераў рысаў твару). Вывад — параўноўваемыя твары тоесныя.

Вось такія факты. Праўда, у самой рэдакцыі «СМ — сегодня» далёка не ўсе вераць у сапраўднасць гэтай версіі.

## ШЧАСЦЕ Ў ЖЫЦЦІ ПРАДКАЖА ВЫРАШЭННЕ...

**У Рызе адчыніўся варажбіцкі салон. Яго адрас: вуліца Элізабэтэс, дом 4. У штаце — 12 варажбітак і два астролагі. Адна — былая фотамадэль (гавораць, што яе прадказанні карыстаюцца найбольшай папулярнасцю).**

**Варожаць у падвале (з адпаведнай абстаноўкай: начнікі, аксаміт — усё, каб кліент «увайшоў у ролю»). Кажуць, там не горача—так што хто з беларусаў захоча наведаць салон, апранайцеся цяплей (з улікам, што сеанс працягваецца гадзіну). У якасці «прадказальнікаў лёсу» выкарыстоўваюцца гушча кавы (незразумела, праўда: гушчу кліенты з сабой нясуць, ці яна застаецца пасля перапынку на абед?), карты і рукі кліентаў.**

